# БЕЛАРУСЬ

Штадзенная політычна-эканамічная і літэратурная газэта

пад агульным кіраўніцтвам Язэпа Лёсіка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ II.

Падпіска на 1 м-ц: з перасыл. 20 р. без перас. 17 р.

АБВЕСТКІ на 4-й страніцы прымаюцца ва ўсіх мовах па 2 мк. за радок пэтыту.

Газэта выходзіць штадня, апроч дзён пасьлесьвяточных.

Рэдакцыя і Кантора: Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом (б. Юбілейны).

Рэдактар прымае ад 12—1 гадз. Кантора адчынена ад 9 да 2 гад. і ад 5 да 7 гад.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і з адрэсам аўтара.

Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад рэдакцыі.

Рукапісы назад не выдаюцца.

ЦАНА 1 МАРК.

№ 3 (59). Менск, Нядзеля 4 студзеня 1920 г. № 3 (59).

## Зважайма!

Парадак жыцьця нашага з кожным днём становіцца ўсё больш і больш няпэўным. Сярод насяленьня нашага краю запанаваў такі душэўны лад, які перажывалі мы пад бальшавіцкай уладай, калі кожны дзень страчаўся аднэй думкай, адным жаданьнем: калі-ж гэта ўсё кончыцца? І цяпер сялянство нашае, а так сама значная частка гарадзкога насяленьня, ўжо вызначае тэрміны, калі мае адбыцца некая перамена, каторая прынясе ім жаданую палёгку. Так цяжка хворы варочаецца і кідаецца ў гарачцы з аднаго боку на другі, няпрытомна шукаючы сабе паратунку. Але людзі ня хворые, людзі, разумеючые пачуваньні нядужага, стараюцца ўсімі залежнымі ад іх спосабамі супакоіць хворага і ўтрымаць ад учынкаў, выклікаеных больлю і няпрытомнасьцью.

І вось, у гэтые няпэўные і трывожные часы ня можна сядзець, злажыўшы рукі. Сьвятая павіннасьць бараніць грамадзянскі парадак, дабрабыт і культуру вымагае ад людзей падняць свой голас і зьвярнуцца да насяленьня з словам разумнай парады. Сьвядомые сілы грамадзянства не павінны кіравацца ў сваіх паступках і чыннасьці голасам болі і часовай несправядлівасьці, каб не ўпадобіцца таму, хвораму на зубы, чалавеку, каторы сунімае боль халоднай вадою. Сьвядомые сілы грамадзянства мусяць трымаць сваё сэрцо ў руках і, чуючы галасы нездавальненьня ў народзе, не павінны патураць яго просьбам, каб не ўпадобіцца той жаласьлівай бабцы, што паддалася на плач хворага на тыфус унука ды накарміла яго забароненай доктарам ядой, ад каторай той сышоў у магілу.

Асабліва ўсё гэта павінно прыняць пад увагу сьвядомае беларускае грамадзянство. Кожная перамена, кожны політычны выбух перш за ўсё цяжка адбіваецца на беларускім народзе, на нашым краі, на справе беларускага адраджэньня. І гэта зразумело. Мы не ўтварылі яшчэ рэальнай сілы, каб маглі спрычыніцца да тых ці іншых падзей, ці пакіраваць справу па свайму жаданьню. Усякіе перамены робяцца бяз нашага ведама і навет назадор нашаму жаданьню, а дзеле таго ніхто ня будзе звараочаць увагі на тое, што край наш гіне, што навекі траціцца набытае дабро, што занепадае ў нас культура і пакідаюцца нам руіны пажарышчаў. Была вайна немцаў з расійцамі — край наш нішчыўся і паліўся; адступалі немцы посьле свае рэволюцыі і—вывозілі ўсё, што маглі; адступалі бальшавікі, і ўжо грабілі, вывозілі і нішчылі ўсё чыста, каб пусьціць край па жабраніне і каб ён, жабруючы, ўспамінаў, што ён страціў, пазбыўшыся бальшавіцкіх парадкаў. Гэта была сатанінская думка і сатанінскіе ўчынкі, але хто паручыцца, што не паўторыцца тое самае ізноў, пры новай перамене, аб каторай пашыраюцца чуткі?!

Прыпамятаем сабе той час, калі ні за якіе грошы ня можна было дастаць куска аржанога хлеба, калі панавала „чрэзвычайка“, калі ніхто ня быў пэвен жыцьця й дабытку свайго, калі Камароўскі лес у Менску быў завалены трупамі, калі прыпынілося ўсё грамадзянскае й культурнае жыцьцё і істнавала адна агульная бальшавіцкая казарма, каля варотаў каторай стаяў тупы чырвонаармеец. Прыпамятайма ўсё гэта і запытаем у сябе: ці-ж гэтага мы хочам, ці-ж гэтага мы чакаем?

Няпрыгожа быць дэмагогам і не гадзіцца патураць цёмнаму несьвядомаму народу. Асабліва гэта павінны зразумець беларусы, каторые добра ведаюць, як ставіцца наш народ да справы свайго ўласнага вызваленьня. Што для яго значыць незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі? Што для яго—беларуская культура, беларуская мова, беларуская дзяржаўнасьць? Усё і—нічога. Нічога—цяпер і ўсё,—калі ён зразумее, што не ў переменах дзело, ня ў тым, што прыдзе нехта новы і перасуне боль з аднаго месца на другое, а ў тым, каб ачуняць ад гэтай болі сваімі ўласнымі сіламі, каб стаць гаспадаром жыцьця свайго і дабытку свайго. А гэтага ён дабьецца не тагды, калі будзе спадзявацца сабе ратунку ў пераменах гаспадароў над сабою, а калі выгадуе сваю ўласную сілу і стане на свае ўласные ногі.

Лёгка зразумець, што політычные перамены ня могуць спрыяць гэтаму гадаваньню сіл, як мятусеньне хворага ня можа дапамагчы яго выздараўленьню. Пры нашым палажэньні трэба быць мудраму, як зьмею, і кроткаму, як голубу, каб і пануючы стан выкарыстаць у сваіх інтарэсах. У ваччу нашых політычных працоўнікаў пастаянна павінен стаяць агнявы знак пытаньня: ці спрые тая ці іншая перамена нашай беларускай справе? Ці не пашкодзіць гэта нашаму нацыянальнаму вызваленьню? Што лепш—сучасны, цяперашні стан рэчы, ці новая перамена? І ці праўда гэта, што, занядбаўшы нацыянальнасьць, хутчэй вызваліўшыся соцыяльна,—народ наш сапраўды дасягне лепшай долі. Ці не абсурд гэта? Ці-ж не навучыла нас цяперашняя рэволюцыя таму, што—без нацыянальнага вызваленьня немагчыма дасягнуць і соцыяльнага вызваленьня? Чаму да гэтага часу ня могуць супакоіцца ні Украіна, ні сама Маскоўшчына, ні Польшча? Бо кожная з іх дбае перш за ўсё аб свой нацыянальны дабрабыт, аб сваю нацыянальную душу і сваё нацыянальнае істнаваньне, каторага адным хлебам не здаволіш, бо і хлеба не здабудзеш...

І вось калі гэтые пытаньні мы будзем мець перад сабою, то перастанем чакаць пераменаў знадворку, а будзем рахавацца з тым, што ёсьць, і гатаваць сваю ўнутраную перамену, бо—зноў паўтараем—няма ў нас яшчэ той сілы, каторая-б магла кіраваць надворнымі выпадкамі, але маецца ўжо ўнатраная сіла, каб дабівацца свайго пры пануючым стане рэчы.

Гэта мы і павінны рабіць, ня гледзячы на ўсялякіе перашкоды, з чыйго-б боку яны не ставіліся. А тые, хто спадзяецца вылячыць зубную боль халоднаю вадою, або пры тыфусе дазваляе сабе есьці забароненую страву,—няхай сабе гэта робяць. Але калі яны наважацца пашыраць свае бушмэнскіе мэтоды лекаў на цэлае грамадзянство, то мусім станоўча запротэставаць, абазваўшы іх настаяшчымі іменьнямі. Дзе справа ходзіць аб жыцьці цэлага народу, там сэнтымэнтаў і патураньняў быць ня можа! Мы павінны быць цьвёрдамі, як камень, хоць-бы сэрцо наша абліваліся кроўю.

Гэтага вымагае дзяржаўная мудрасьць.

## АПОШНІЕ НАВІНЫ.

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПОЛЬСКАГА ГЭНЭРАЛЬНАГА ШТАБУ.

Ад 1—І.

**Літоуск-Беларускі фронт.** У ваколіцы Краслаўя нашы атрады зрабілі некалькі нападаў на паўночны бераг Дзьвіны бяручы палонных і 2 кулямёты. На вучастку Гомель-Лепель ажыўленая чыннасьць разьведчых патрулёў. У карысным для нас нападзе на вёску Крушынкі, на палескім вучастку, згінуў гэроічнай сьмерцяй падп. Мечнікоўскі.

**Валынскі. фронт.** Спакойна.

Ад 2—1.

**Літ.-Бел. фронт.** На Палескай часьці нашые атрады удачным нападам разьбілі бальшавікоў у Скрыгаславе, захапіўшы пры гэтым палонных і амуніцыю. На рэшце фронту—жывая разьведачная чыннасьць,

**Валынска-Падольскі фронт.** Апошнімі днямі нашые войскі занялі к ўсходу ад франтовай лініі Стара-Канстантын, Праскураў і рад мястэчак, скуль адступілі ахвотнікі дэнікінскай арміі.

---

### Паездка Пильсудскаго на фронт.

ВАРШАВА 3—І. „Kurjer Porannу“ паведамляець, што дзяржаўны шэф мае гэтымі днямі выехаць на ўсходні фронт, дзе маюць адбыцца здарэньні ваеннага характару.

### Мір Польшчы з большавікамі.

ВАРШАВА. 3—І. Адна з Варшаўскіх газэт, блізка стаячая да ураду, паведамляе, што бальшавікі запропанавалі Польшчы мір. згаджаючыся па польскіе умовы, але справа з гэтым мірам будзе залежыць ад тых перагавораў, якіе вядуцца палякамі ў Парыжы.

### Пабеды чырвонай арміі.

ВЕНА, 2—І. Бальшавіцкае паведамленьне штабу: У районе Кіева чырвоные войскі занялі Фастаў, Васількоў і Трыпольле, падышлі да Крэменчуга, а на паўдня-усход ад Харкава—занялі Ізюм.

### Амэрыка і Антанта.

ВЕНА, 2—І. Як паведамляюць Вашынгтонскіе газэты, камісія аб заграічных справах амэрыканскага сэнату прыняла рэзолюцыю, незалежна ад сваіх быўшых саюзьнікаў, зрабіць неадкладаны мір з Нямеччынай.

### Паустаньне эсэрау у Сібіры.

БАЗЭЛЬ, 2—І. З Сібіру паведамляюць, што там пачалося паўстаньне эсэраў, якіе захапілі Іркуцкі вакзал.

### Проці-бальшавіцкі саюз.

З Парыжу паведамляюць, што польскі міністар заграічных спраў разаслаў ноту да газэт, у якой заяўляе, што трэба канечна зрабіць саюз паміж Францыяй, Англіяй і Польшчай проці бальшавікоў, якіе падгатаўляюць вялікае наступленьне вясною проці Польшчы

### Колькі каштуе вайна з бальшавікамі.

ЛЕНДАН, 1—І. Бонар Лёў у парлямэнце заявіў, што новым дзяржавам, якіе змагаюцца з бальшавітамі, Англія пазычыла мільярд функаў стэрлінгаў.

### Новы напад на віцэ-караля Ірляндыі.

ДУБЛІН, 1—І. На віцэ-караля Ірляндыі Фрэнча, зроблены новы напад. Двое з вартуючых Фрэнча і 12 нападаўшых забіты.

### Англія і бальшавікі.

ЛЕНДАН, 1—І. Прадстаўнік Англіі О'Грэды меў выехаць з Копэнгагэна, каб прыняць учасьце ў ангельскім конгрэсе ў справе соцыялізацыі горных промыслаў.

Як выясьнілося, апошнімі днямі, О'Грэды назад у Копэнгагэн ня вернецца, бо ўсе надзеі на паразуменьне ў справе замены палонных зьнiклі посьле таго, як ангельскі урад адказаўся прыняць мірные пропазыцыі бальшавікоў. Важные варункі зьмянілі аднак сытуацыю, і О'Грэды мае выехаць на днёх, а да таго часу перагаворы ня будуць прадаўжацца.

Есьць надзея, што Літвінаў на гэтых днёх мае дастаць дадатковые інструкцыі з Масквы, каб дасьцігнуць паразуменьня з Англіяй.

### Ізноў Расійскае пытаньне.

ВЕНА, 1—І. Як паведамляе „Matin“у студні адбудзецца конфэрэнцыя з учасьцем Клемансо, Льойд Джорджа і прадстаўніка Японіі ў справе арганізацыі аружнай інтэрвэнцыі ў Расіі, якая павінна пачацца вясной.

---

# На дарозе да сваей бацькаушчыны.

*(Уражэньні ад канфэрэнцыі сыяністаў Беларусі ў Менску, 30/XII—19 г.).*

I.

Мы, беларусы, знаем жыдоў, якіе жывуць па ўсіх кутках нашага краю, як гандляроў, рамесьнікаў і г. д. Мы бачым іх, як старадаўных жыхароў нашай зямлі. Нашые сяляне зжыліся з імі даўно, нават троху ўніклі ў іх жыцьцёвы быт. Але жыдоўскае духоўнае жыцьцё, іх праўдзівае сьвятое сьвятых—іх душа—для нас яшчэ і да гэтага часу невядомая.

Праўда, за ўвесь вялікі працяг царызму ў б. расійскай імпэрыі розные агэнты чорнай сотні стараліся вытлумачыць нам жыдоўскую душу. Але, мабыць, толькі самые цёмные і несьвядомые людзі маглі верыць маляваньню жыдоўскай душы праз мастакоў Пурышкевічаў, Пранайтысаў, „Новага Времени“ і інш.

Знаем мы яшчэ, што калі ў якім-колечы краі здараецца агульнае няшчасьце, дык усю віну ў гэтым узваліваюць на жыдоў, і яны за гэта багата плацяць сваей крывёй. Калі адзін з іх робіць праступак, дык вінавацяць усю нацыю...

Знаем мы так-сама, што адвечнае вандраваньне вельмі вышкаліло гэты біблейскі народ, стварыло ў ім той вялікі спрыт да гандлю, за што чужые народы адносяцца да яго няпрыхільна. Вечная нэрвознасьць, няпэўнасьць у заўтрашнім дні мелі вялікі ўплыў на псыхіку жыдоўскага народу. Яны паважна глядзяць толькі на фізычную сілу, якая пануе ў краі. Гэта вымагае іх жыцьцёвая практыка. Дзеля гэтага мажліва, што часьць беларускай інтэлігэнцыі на іх скоса пазірае, бо жыды мала зацікаўлены беларускім рухам, а лічацца толькі з тымі, хто ў пераменку пануе ў нашым краі...

Толькі не аб гэтым я, глаўным чынам, хачу тут казаць, але аб тым, як гэты народ, ужо дзьве тысячы год адарваны ад сваёй зямлі, разсеяны па ўсяму сьвету, не асіміляваўся, ня страціў свайго нацыянальнага аблічча, ня гледзячы на тые бязьмежные мукі, якіе ён дзеля гэтага выцерпеў. Жыды ў сваім жудасным „голусе“ (выгнаньне) ня страцілі свайго нацыянальнага „я“. У гэтым кірунку нам, беларусам, варта ў іх павучыцца: ў гэтым і ёсьць сіла іх духу.

За ўвесь працяг двух тысяч гадоў яны з пакаленьня ў пакаленьне гадавалі ў сваёй душы агнёвае закаханьне да сваёй старадаўняй Бацькаўшчыны—Палестыны. Ведаючы свой Сыон толькі з біблii і гісторыі, а рэдка нават хто з іх вачыма сваімі бачыў зямлю сваіх прашчураў, аднак цягнуліся да яго, як расьліны да сонца.

Адвечны сум-туга пра свой далёкі край пануе ў творах іх паэтаў. Молячыся некалькі разоў у дзень на ўсход—у бок сьвятой, роднай зямлі, яны ў мысьлях бачаць руіны хорамаў Ерузалімскіх... Маючы ў сябе чужые наносы—жаргоны розных моваў „голусных“ зямель, яны аднак не забываюць роднай гэбрайскай мовы. Яны бяз конца любяць мову сваіх прадзедаў.

Ўвесь час доўгага „голусу“ лепшые прадстаўнікі жыдоўскага народу марылі аб звароце да сваей Зямлі, і ніколі ня страцілі надзеі адбудаваць свой Сыон. Яшчэ ў сярэдніх вяках іх вялікіе паэты ў сваіх творах апявалі толькі Ерузалім (Сыяніды Галеві і інш.). Трымаючыся сваіх традыцыяў, ім люба было хоць паміраць сярод сьвятых курганаў і могліц роднай старасьветчыны... Гэтые затоеные мары гаілі іх балючые раны доўгіе вякі. Закаханьне да паўмітычнай бацькаўшчыны было іхняй жыватворчай расою, якая асьвяжала іх дух і не давала сьмяротнаму пэсымізму разьядаць іх нацыянальны організм.

А вось мары „вечнага жыда“ пачалі абрысоўвацца ў рэяльные формы ў другой палове мінулага веку. Пачаліся першые гурткі сыяністаў. Мэта, іх была: не паміраць у краі дзядоў, як гэтага дамагаліся набожнікі, але жыць там. Сыяніцкі рух пашыраўся, арганізацыі расьлі і пачалася колёнізацыя ў Палестыну. Стварыўся нацыянальны фонд, да якога плылі грошы ад жыдоўства ўсяго сьвету. Вельмі цяжкіе былі іх варункі, бо жыдом было забаронено турэцкай уладай скупліваць землі, але сыяністы не зьневяраліся і ладзілі колёніі пад іменьнямі розных чужых людзей ня жыдоўскага вызнаньня. На чале руху стаялі Макс Нордау, Д-р Гэрцэль, Зангвіль і інш. Справа крапчэла. Адбываліся сыяніцкіе зьезды, паміж іншымі—і ў беларускім Менску.

Як і кожная нацыянальная справа, мелі і маюць перашкоды ад сваіх-жа братоў па нацыі і сыяністы. Гэтые перашкоды сыплюцца з розных бакоў. Жыдоўскіе клерыкалы кажуць, што сыяністы ідуць проці Бога, бо адзін толькі Мэсыяш вызваліць жыдоў з „Голусу“. Соцыялісты жыдоўскіе кажуць, што сыяністы—гэта буржуі, гэшэфтмахеры і што трэба кінуць гэтую ідэю і кіравацца да агульнага інтэрнацыяналу кожны на сваім месцы, а адраджэньне нацыі ёсьць паварот назад—проці прогрэсу. Асымілятары пяюць, што ў кожным краі трэба жыдом зьлівацца з каранным элемэнтам насяленьня, тады толькі жыцьцё палепшае.

Маючы гэткіе трудйасьці на сваім шляху, сыяністы аднак ня падалі духам і прадаўжалі сваю чыста нацыянальную працу. Закладывалі ўсё болей калёніяў у Палестыне; адрадзілі стыль свайго старога мастацтва; залажылі шмат сярэдніх гэбрайскіх школ у Палестыне; ўзбудавалі свой політэхнікум і ўжо арганізуюць свой гэбрайскі унівэрсытэт. Гэбрайская мова зрабілася жывой мовай, якая ўжываецца ў штадзённым жыцьці. У жыдоўскіх калёніях нават арабы гавораць пагэбрайску. Турэцкі урад прызнае гэбрайскую мову.

Шмат зроблено сыяністамі ў кірунку адраджэньня роднай мовы і ў „Голусе“—на усенькім сьвеце. Ўсюды існуюць гэбрайскіе школы. Будзіцца нацыянальны гонар, і зьневажаюцца тые з жыдоў, хто саромеецца свайго імя, сваёй роднай мовы.

У справе мовы ў жыдоў ёсьць трагэдыя: апроч самабытнай гэбрайскай мовы, ў іх ёсьць яшчэ „Голусны“ нанос—жаргон, папсутая нямецкая мова, якая аднак мае сваю літэратуру, досіць багатую. А глаўным чынам яна моцна тым, што жыдоўскіе простые масы ведаюць толькі яе, як жывую мову. Прыхільнікі жаргону называюцца „юдышыстамі“. І вось адбываюцца пастаянные змаганьні паміж „гэбраістамі“ і „юдышыстамі“.

Першые кажуць, што „гэбрайская мова—самабытная мова жыдоўскага народу, якую ён ужываў, быўшы вольным гаспадаром сваёй зямлі; у ёй жыве наша душа, першая крыніца ўсходняй натуры, ў ёй жыве наш гістарычны скарб—нашые праpокі, а жаргон—мова запазычаная, чужая“.

Другіе кажуць, што „юдыш“ (жаргон)—гэта тая мова, якая пранікла ўсю нашу душу ў час „голусу“; мова народная, жывая, на якой стварылася ўся нашая народная творчасьць, звычаі, традыцыі, што гэтая мова зрабілася часткай нас саміх. А гэбрайская мова мёртвая цяпер, як латынская, старагрэцкая, ябо царкоўна-славянская мова.

Кожны пасваему мае рацыю ў гэтай справе. І пэўна прыдуць да згоды. Шмат хто з жыдоўскіх літэратараў піша на абедзьвюх мовах. Але наогул, дзьве родные мовы ў аднаго народу справе нацыянальнага адраджэньня не дапамагаюць і зьмяншаюць сілы, дзелячы іх на дзьве часьці.

**З. Бядуля.**

# Політычные весткі.

### Амэрыка і мірны трактат.

Вашынгтонскіе часопісы паведамляюць, што Вільсон далей ня хоча ісьці ні на якіе компрамісы ў пытаньні аб мірным трактаце.

### Ратыфікацыя мірнага трактату.

Чэшскаму бюро прэсы паведамляюць з Парыжу: Перагаворы, якіе адбываюцца праз старшыню нямецкай мірнай дэлегацыі, барона фон-Лерснер, з гэн. сэкратаром мірнай конфэрэнцыі, Дубосто, даюць аснову спадзявацца, што ў хуткім часе прыдуць да паразуменьня. Думаюць, што ратыфікацыйные пратаколы будуць аб'яўлены 6-га студня а 4-ай гадзіне ў дзень.

### Францускіе рабочые проці інтэрвэнцы Расіі.

„Гуманітэ паведамлае, што портавые рабочые і матросы ў портавых гарадох Лапаліс і Рошэфор адмовіліся працаваць пры нагрузцы на параходы амуніцыі для Дэнікіна.

### Аб вайне на ўсходнім фронце.

У зьвязку з так званымі мірнымі пропазыцыямі бальшавікоў, „Kur. Por.“ піша, што пропазыцыі гэтые, паміма іх прыладнасьці, могуць мець у сабе шмат падобнага да Данайскіх дароў. Польская дзяржава ня можа даць на іх у кожным разе пасьпешнага і неабдуманага адказу. Дзеле змаганьня, хоць і цяжкага, маем міжнароднае палажэньне вельмі карыснае. Польская політыка павінна апірацца на выкарыстаньні гэтага палажэньня дзеля шыбкага заканчэньня вайны ў спосаб абавязкова пабедны і даючы Рэчы—паспалітай магчымасьць спакойна і бясьпечна аддацца мірнай працы ў цеснай і трывалай сувязі з сваімі саюзьнікамі.

### Зьмены ў бальшавіцкім урадзе.

Подлуг вестак з савецкай Расіі, бальшавіцкі урад мае адступіць свой пляц злучанаму блёку ўсіх соцыялістычных партыяў. Новы урад будзе называцца „урад народных камісараў пад апорай рабочых і сялян.“ Гэты урад таксама мае склікаць устаноўчы сойм.

### Згаворы проці савецкай улады ў Петраградзе.

„Дайлі Майль“ паведамляе, што ў Петраградзе выкрылі новы згавор проці савецкага ураду. Дагэтуль арыштована 900 асоб, з іх шмат быўшых царскіх афіцэраў так-сама шмат французаў і ангельцаў, якіх вінавацяць у прыняцьці учасьця ў згаворы. Да гэтага часу дапрасілі 250 асоб і частку з іх ужо судзілі. 70 чалавек расстрэлена.

**У скорым часе мае адбыцца Устаноўчы сход беларускіх соцыял-дэмократаў. Усіх нацыянальна—сьвядомых беларусаў соцыял-дэмократаў просім запісацца ў рэдакцыі „Беларусі“ ад 9—2 гадз.**

# Сябры.

*Перадрук забаронены.*

I.

Студэнт, Мікола Каравайчык, на раніцы піў гэрбату ў сваёй кватэры. З ім, за доўгім сталом, сядзелі яго сябры: Гусяцкі і Кабыла, і так сама пілі гэрбату. Пакой гэты яны наймалі за грошы ў аднае немкі, Марты Іванаўны. У другім пакоі яны займаліся навукамі; тутака, за завесай, стаялі іх пасьцелі.

Сябры Міколы былі досыць паважны.

Гусяцкі быў тоўсты, чырвоны, як рак, а валасы на галаве былі трохі рыжые; так сама рыжые былі і вусы; росту ён быў сярэдняга. Па натуры ён быў маўчліў і спакойны. Калі ў яго пыталіся аб чым, дык ён, пускаючы дым з цыгаркі, казаў:

— Так, так.

У другі раз пыталіся,—ён ізноу казаў:

— Пэўна, пэўна!

Ці цераз зубы цадзіў:

— Вядома, вядома, зразумела.

Сябар Кабыла быў яшчэ паважнейшы. Доўгі, як жэрдка, чорны ды лахматы. Твар яго, сапраўды, падгуляла ад кожнадзённай выпіўкі, бо без гарэлкі ў яго не праходзіло ніводнага дня. Шмат дадаваў яму важнасьці яго бас, якім ён пеў у розных хорах, дзе прыдарывалося.

Мікола Каравайчык быў ціхі, як ягнёнак.

Адно яму часта шкодзіло: дужа ён любіў сваіх сяброў ды вадзіў з імі кумпанію, а сябры й карысталі з гэтага, бо кішэнь у Міколы быў, як кажуць, дыравы, і грошы ў ём ня трымаліся. Як толькі сябры чулі, што Мікола адтрымліваў з дому грошы, яны, ведаючы дабрату Міколіну, прыходзілі да яго й віталі з тым, што ён адтрымаў грошы.

Вядома, з гэтай радасьці трэба было выпіць ды закусіць, а апасьля і ў карты пайграць.

Міколу ўсе любілі: ён для сяброў гатоў быў хоць у вагонь і воду, але часта карысталі з гэтай яго дабраты сябры, якіх клічуць „забулдыгамі“.

Хоць сабе ўчора. Сябры йгралі ў карты. Мікола трохі праіграў. Было позна. Сябры расходзіліся.

Мікола ня меў моцы кінуць ігру, пакуль не астаўся іграць з Кабылай. Кабыле шанцавало, і ён абдуў усіх сяброў. І трэба было Міколе астацца з ім! Ён, сапраўды, хацеў кінуць ігру, але Кабыла папрасіў яго:

— Ну, што ты, Мікола? Паіграем яшче; што табе стоіць?

Як было адказаць свайму сябру! Мікола ніколі не адказваў, калі яго прасілі.

— Ну, што з табой зробіць? Трохі пайграем,—кажа Мікола.

Яны й пайгралі.

Тым часам, Міколіны грошы з яго кішэня ды перайшлі ў кішэню Кабылы.

Аб гэтым з сумам успамінаў сёньня Мікола, шкадуючы, што астаўся саўсім бяз грошы.

Ён сядзіць за гэрбатай, охае ды ўздыхае:

— Ах, Божа-ж мой! Ня хочу есьці...

Гэта ня праўда. Мікола любіў паесьці. Сёньня ён ужо зьеў вялікі кавалак сала, выпіў шклянку малака,—а шлянка гэткая, што ў яе тры шклянкі улезе,—на рэшце піў гэрбату з малаком ды булкай, а ўсё сумаваў.

— Ах, ліхо яму! Відаць, я хворы, бо ня хочу есьці.

Пасьнедаўшы, сябры зьбіраюцца ў другім пакоі. Тута яны працуюць па розным навукам, каб здаць экзамены, ці, як кажуць, *зачоты.*

На лекцыі гэтые сябры хадзілі рэдка.

У кожнага сябра есьць шафа з кнігамі.

У пакой увайшоў Мікола, сумны, ды сеў на канапу.

Сядзіць, заклаўшы адну нагу за другую, ды цяжка ўздыхае.

— Ах, Божа мой, Божа мой!—шэпча пра сябе.

Тады ідзець к шафе, адчыняе яе ды згінаецца, стоячы на дыбачках.

Трымае адной рукой за дзьверцу шкапы, сумна глядзіць на апошнюю паліцу, як бытцам хоча пашукаць кніжкі; але на гэта ў яго не хапае адвагі.

Якіесь думкі захапілі яго мазгі, і ён усё роўна як застыў перад шафай, стоячы на дыбачках.

Думкі гэтые сумные, бо Мікола дужа цяжка ўздыхае.

— Што з вамі, Мікола? Чаму не працуеце?—зьвяртае увагу на яго ўздохі Гусяцкі.

— Няма ахвоты—кажа Мікола, і яшчэ некалькі мінут астаецца так сама стаяць каля шафы.

Тым часам Кабыла, сказаўшы, што яму трэба пайсьці сьпяваць у якісь-то хор, выйшаў.

— Ізноў прыдзе сёньня пьяны,—кажа Мікола.

— Так, так. Гэта пэўна,—сказаў Гусяцкі і закурыў цыгарку.

— Ах, Божа мой! Кепска, калі грошы няма ў кішэні,—жаліцца Мікола.

— Пэўна, пэўна. Вядома, бяз грошы кепска. Прайгралі Кабыле?—пытае Гусяцкі.

— Прайграў, ды во—чакаю, што прышлюць грошы з дому ў хуткім часе.

— Зразумела, прышлюць. Бяз грошы не аставяць.

— Я вам тады, калега, аддам грошы і дужа буду прасіць схаваць іх. Ці добра?

— Добра, ды што толку?—кажа Гусяцкі.

Ён усьміхнуўся.

— Ізноў будзеце прасіць кожны раз вярнуць вам грошы, пакуль ўсе прадуеце.

— Ведаеце, калега,—я напішу на паперцы, што больш граць ня буду і расьпішуся ў тым.

— Так, так. Ды што толку?

Мікола піша нешта на паперы і падае Гусяцкаму.

— Ха, ха, ха,—сьмяецца той, чытаючы паперу:

— „З гэтага дня абяцаюсь ня граць у карты, а калі сяду граць, дык адтрымаю па карку ад сябра Гусяцкага“.

— Так, так, гэта пэўна,—цягне Гусяцкі, пускаючы дым,—ды не саўсім. Справа ў тым, што прападзе ваша абяцанка, як было і раней. Успомніце, як я клікаў вас, прасіў ня граць, ды паказваў вашу пісульку, а што

